# ДЗЯННІЦА

**Беларуская штотыдньовая газэта.**

**Выходзіць у Пїтраградэі, Кацярынінскі канал, дом № 72, 23.**

Падпісная плата: на 12 мсц — 4 рублі
на 6 „ — 2 „

**Асобны номір — 10 капеяк.**

**№ 4** **27—XI** **1916** году.

Тоя мейсца на зямлі, дзе жывуць нашы бацькі, дзе жылі дзяды— дзе мы радзіліся, гадаваліся і раслі —тоя мейсца — гэта наша родзіна, краіна родная і каханая. Як бы нам ні прышлося у ей жыць, багата ці бедна, шчасна ці нішчасна — мы усьоткі за гэта на яе ня маракуям і ня пакідаям яе паважаць, шанаваць і любіць. Часта доля наша нас выганяя з яе, змушая пакінуць яе на час, або і на зусім і мы, пакінуушы яе, ужо скора начынаям нудзіцца па йой, а потым і прагчы, хацець вярнуцца, каб хоць на квадраняц убачыцца. Гэта прага да свае краіны, да роднага кутка — дужа моцная сіла, якое нельга заглушыць нічым. Гэта напэуна ведаюць усе тыя, каму траплялася пражыць колькі часу у разлуцы з родзінаю. Ня дзіва тады, калі мы бачым сваю родную краіну у бядзе, сэрца наша сціская пякучая боль і мы-б гатовы многая даць, каб збавіць яе ат гэтага. Кожнаму сыну свае краіны многа лепі, калі яна, яго маці, жыве шчасьліва, багата, — бо ад гэтага багатшым і шчаснейшым будзя йон сам. Апошняго, к нашуй крыудзя, многія шчэ ня ясна сабе уясняюць і ня вельмі рупяцца аб тым, каб прынясьці большую ці меньшую карысць на агульную справу: родзіня, братом сваім і сабе. Атрымаушы ад жыцьця, калі пашанцуіць, больш -- чымсь другія, яны карыстаюць гэтым, ля сябе, забываючы доуг — доуг раднячы, доуг патрыатызму свежага, маладога, здаровага. Патрыатызм іх, як ня шчыры нявытрымоувая і лопая. Вядома, ат гэтага старонка многа губляя па дарозя к росту і культурнасьці і багацьцю. Крыудаю агортая ат узгляду на іх і толькі азнаньне таго, што, поміж з гэтым жыве і—шчырая прыхільнасць, шчырая любоу да краю свайго, якія, хоць і слабейшыя покуль што ад сваей хвальшывай сястры, але маюць за сабою будучыну, — азнаньне гэтага дае веру у лепшую будучыну Беларусі.

*Д. Ж—ч.*

## З нашага жыцьця.

*Агляд працы за першы год Мінскага Аддзелу Беларускага Таварыства для помачы пацярпеушым ад вайны.*

У Верасню 1915 году ад напору немцау кінуліся у Мінскую губэрню дзісяткі і сотні тысячау беларусоу, уцікаючы са сваіх мейсц і пакінуушы усьо свайо меньня на міласьць вайны.

Помач нішчасным на гвалт была патрэбна. За яе узяуся нізадоуга да таго заложаны у Мінску Аддзел Беларускага Таварыства для помачы пацярпеушым ад вайны.

У Аддзел запісалася каля пау-

сотні чалавек. Прэзэсам яго быу выбраны мяйсцовы адвакам Чаусау. Да Камітэту належылі: Людвіка Сівіцкая, Ванда Левіцкая, Антон Левіцкі, Фальскі, Русецкі, Эмілія Сівіцкая, Бладысь Голуб, каторыя шмат працы палажылі на карысьць Камітэту.

Перш за усьо Камітэт падбау аб тоя, каб даць які прытулак і кавалак хлеба бежанцам, бо шмат хто з іх ня меу нават гэтага. У канцы Верасьня былі зробляны першыя тры дармавыя прытулкі, а праз колькі часу—яшчэ тры. Памешчалася у іх звычайна каля 150—200 чалавек. Адначасне была нарыхтавана дармовая сталоука, а поруч з йой — другая з натта таннай платай за ежу. Праз колькі часу зрабілі яшчэ трэцьцюю, дармовую.

Грошы на сталоукі дала так званая „Сѣверопомощь". З часам і тая пакінула падмагаць гэтую справу— і Камітэту вясной 1916 году прыйшалося закрыць дзьве дармовыя сталовыя, пакінуушы толькі платную, знаную па празваньню „Беларускай Хаткі". Дармовымі сталоукамі за увесь час пакуль яны былі, выдана 16 тысяч, а платных каля 10 тысяч абедау.

Апроч гэтай помачы Камітэт дапамагау часам патроху грашыма, раздаушы іх такім чынам каля 600 рублёу.

Асабліваю увагу Камітэт зьвярнуу на так званую трудавую помач, дбаючы — каб знайсьці бежанцам якую колечы працу, бо і грошы на падмогу ім меу Камітэт ні шмат, ды і бежанцы былі людзі здатныя да працы, — нідауныя гаспадары, ні црывыкшыя дарма есьці хлеб. Камітэт вышуківау такую работу, каторая былаб звычнай для селяніна-беларуса.

Пачынаючы са Студня 1916 году Камітэт раздавау льон на пражу. Пражай займаліся каля 150 кабет. Разам з тым Камітэт залажыу ткацкую майстэрню дзе выраблялася на продаж добрая палатно, ручнікі, абрусы ды іншыя тканіны з пекнымі узорамі на беларускі лад.

Апроч таго Камітэт заняуся

## Бацькава воля.

Раман *Ц. Гартнага.*

Часьціна першая.

4.

Усіх-жа настрой разам пераіначыуся: Мікола з Мартаю здзіуленна пераглянуліся паміж сабою, потым акінулі зіркамі дачку, якая раптоуна уся так і загарэлася ад нейкага няпрыятнага сораму і ускіпеушай злосьці на Тэклячку... Вясіль таксама зьмяніуся на твары, які адбівау на сабе сэрдэшную трывогу і вялікую, горкую крыуду.

— „Няужоткі і упрауду — што ты пісьмо атрымала, Зоська"? спусьціушы крыху часу абернулася Марта к дачцэ.

— Ну, а калі і атрымала, дык што! — з нядобраю ухмылкаю атказала Зося.

— Нічога, бач. Толькі скажы хаця ад каго.

— Ды пакінь распытвацца; гэта зусім ня наша дзела, — перабіу жонку Мікола, а тымчасам, самому яму ня меньш Марты хацелася ведаць таемнасць зосінага пісьма.

— Вось лепі давай боляй гарэлкі, — дабавіу йон і выпіу ізноу повін кілішак; затым падньос Васілю, які на гэты раз атказауся: йон скеміу, што пісьмо Зося атрымала няйначай як ад Рыгора і так раззлувау, што ужо яму было ні да гарэлкі.

— Та хаця закусвайця, — упрошвала Марта.

Але Васілю і яда ня лезла у горла. За тоя сваіх прасіць закубаса, так і сыр, і сала былі дужа добрыя і смашныя і іх ел усе, па-

шыцьцьом бялізны для войска, дастаушы у летку 1916 году заказ ад „Общеземскаго Союза“. Каля шыцьця знайшло сабе заработак блізка каля 700 кабет.

Пашылі яны каля 300.000 салдацкіх кашуль і нагавіц. У летку-ж была зробляна, апроч таго, пачыначная майстерня ваенных вопратак.

Маючы думку дапамагчы развіцьцю селянскай гаспадаркі, Камітэт зрабіу для бежанцау у Красавіку і Трауню 1916 г. курсы для навукі— як належыцца добра утрымліваць сады, гароды і пчолы. Курсы адбываліся шэсьць тydняу, слухалі іх 38 чалавек. Навука давалася на беларускай гаворца. Лекціі давалі п. Русецкі, п. Л. Сівіцкая, п, Крыуха. Канчаючы курсы слухачы здавалі акзамін.

К пачатку Ліпня 1916 г. у двор Карпілоуку (каля 30 верстау ад Мінску) вывязьлі 50 дзяцей найбяднейшых бацькоу і сірот, каб даць змогу ім, змораным гарадзкім жыцьцьом, — падсілкавацца на вьосца. Пражылі там дзеці да Лістапада і праз гэты час значна паправіліся; вагі прыбыло у вусіх ад 3 да 13 фунтау. Жывучы там старшыя дзеці дарма памагалі селянам працаваць: касілі, грабілі сена, малацілі збожжа. Даглядаушыя за дзяцьмі настауніцы дбалі — каб дзяцей навучыць і да льогкай майстэркі.

Апроч усяго таго трэба успомніць аб „йолцы“, зроблянай на Каляды, на каторай праз 2 дні было да 150 дзяцей за падаркамі, — і аб „бэтлейцы“ — беларускім народным тэатру. Калісь „бэтлейка“ была добра ведама па усім Краю і толькі астатнімі гадамі шмат занікла. Але у Мінску знайшлося добрых два старых бэтлейшчыкі, каторыя наладзілі „бэтлейку“ у памяшчэньню „Лучынкі“ і „Сахі“. Нашы людзі шчыра цешыліся з „бэтлейкі“.

Справы Камітэту вымагалі шмат грошы. А між тым Камітэт ня меу трывалага, пастаяннага мацунку грашмі ні адкуль. Усьо, што йон атрымау са стараны, — гэта 10.150 рубльоу часткамі ад „Союза Городовъ“ і ад „Сѣверопомоши“. Ні забазпечаны напэуна дастаткамі—калі

---

чынаючы Мікалаям і канчаючы Тэклячкаю, елі с такою прагаю, што скора абедзьві талеркі апусцелі...

Марта бачучы гэта, ні прапусьціла вылазіць з-за стала нікога, а барджэй зьвярнулася у мыцяльнік і прынясла на стол міску смятаны і другую — кісялю з малаком.

— Вось закусіця яшчэ, — папрасіла яна.

Але, апроч Зосі, ні таго ні другога ужо ніхто і ні паспытау.

Вылязшы з-за стала, Васіль падзякувау Мікалаю і Марці за выказаную імі ласку і гасьцінасць і з абоімі шчыра расцалавауся. Тады йон пачау зьбірацца к атходу.

— Ужо бадай, што к поуначы блізка, — праказау йон.

— А ты, нябось, ведзьмы баісься засьмеялася Марта.

— Ня тоя, што ведзьмы баюся, толькі... запозна, — атгаварыуся Васіль.

— Ды нічога, пасьпееш яшчэ,— разуважыу яго Мікола: можна яшчэ з гадзіну пасядзець.

— Ой, што вы, — здзівіуся Васіль і, даушы дабранач, павярнуу к дзьвярам. Зося пашла за ім, каб правясьці:

— Ні забывай нас, Васілька, — паслалі услед яму у адзін голас Мікола з Мартаю.

— Ды не, не; дзеж вы бачылі,— суцешыу іх Васіль, пераступаючы парог. Ачуушыся у сенцах, йон асьцярожна спыніуся ля вушака дзьвярэй, і труслівa абмацаушы Зосіну руку, сіротна, баючыся, праказау:

— Зоська, га Зоська, а можа мы выйдзям крыху пасядзець на вуліцу?

Зося нічога ні атказала.

усьожткі Камітэт здалеу вытрываць і пашырыць сваю помач — дык гэта толькі дзякуючы той працы — якой ні пашкадавалі на карысць свайму народу Сябрукі Аддзелу.

Значыцца — працаваць можна! Дзеля таго клічма усіх сьвядомых беларусоу еднацца і працаваць — ні пакладаючы рук, каб у гэтыя суровыя і важныя часы, калі быць можа — ідзе аб увесь далейшы кірунак жыцьця нашага Краю, — каб быу чутны і наш голас — голас Маладой Беларусі.

Мінск. *М. Осьмак.*

## Да Беларускай Кальоніі у Петраградзе.

Мінскіе Беларусы, сабраушыся каб ушанаваць 10-лецьце „Нашай Нівы", пасылаюць вам свайо прывітаньне і шчыра спагадаюць узмацаваньню вашае працы, а перад усім — разьвіцьцю заснаваных нідауна газэтау, пасьля сьмерці „Нашае Нівы"—падняушых,

. . . ні знаушае пабед
ды ні заплямленае знамя !!!

Мы, як мага, падтрымаім вас. Жадаім таму каб мацнейшымі былі зьвязкі між вамі і мінскімі беларусамі і мы зноу зьеднали бы свае разьбітые сілы і маглі супольна кіравацца да нашае мэты.

Мінск Беларускі.
Лістапада 12 га 1916 году.

(21 подпіс).

* *
*

Пашто пяро бяру і на паперы белай
Кладу рады панурых, сумных дум?
Ці выліць каб тугу, што ветру шум
Навеяу на мяне,
Ці — што ляжыць на дне
Душы маей — падняць, разчухаць,
разбудзіць;
Ніхай, як ветру гук, гудзіць
Акорд заглушаны, прыціхлы,
набалелы...

* *
*

Пашто пішу, нашто? Хтоб стау
чышацьверш гэты,
Ды і на штоб хто меу чытаць?...
А! можа: хтось пачне гадаць

---

— Выйдзям, га?—папрасіу яшчэ Васіль.

- Калі нешта німа ахоты — спаць вельмі хочыцца, — схлусіла Зося.

— Спаць, спаць... няужо ты ня вытрымаїш і гадзінкі лішняе — папракнуу Васіль.

— Няужо ты ня верыш...

— Вядома, што ня веру, бо ты проста са мною ні гуляць, ні гаварыць ня хочыш, няймаверна прыказау Васіль, і разлаваны, адвярнууся ад Зосі і прачыніу дзьверы. — Ты думаяш—я нічога ня ведаю: во, вось і сеньні—атрымала пісьмо ад Рыгора, дык на мяне і нядзівісься. Але, няхай... ціхім і поуным адчаяньня голасам дабавіу йон.

— Ну, а калі так... а калі пісьмо ад Рыгора атрымала, то што мне за гэтая будзя! — задзірна атказала Зося.

— Ды нічога, што ж я пры гэтым, толькі... змякчэу Васіль і ласкава, умольна паглядзеу на Зосю: Няужо мне і зусім нават ні ходзіць к табе, Зоська. Няужо мае усе жаданьня абманны.

— Я ня ведаю нічога, я ня ведаю, — суха прамовіла Зося і адвярнулася у бок ад яго.

— Скажы мне, га?

— Што табе сказаць?

— Няужо ты мяне нізваньня ня любіш?

— Зося змаучала. І тая сціш, што у момэнт запанавала ля іх такой прыкрай, такой адваротнай паказалася Васілю, што йон весь ажно здрыгануўся ад нейкага няпрыятнага пачуцьця, сціснуу крэпка зубы і скрывіу ніздавольную міну. На яго вачах міжвольна выблісьнулі сльозы і зацмуцілі празрыстасць вачэй. Каб Зося гэтага ня убачыла,

Над сумнаю душой —
Што дзеялась самной,
Як сумная рука пісала гэты словы,—
Мо узбудзіць гэта — рой дум новых,
Мо скажа хтось: „Тут боль душы паэты“...

*К-ція Буйло.*

## Пісьмо у Рäдакцію.

Паважаная Рäдакція!

Ня ведаю кім прысланыя зйавіліся да мяне два першыя нумяры „Дзянніццы“ і „Świetača“. Знайшлі яны мяне аж у сяродку Маскоушчыны і ускалыхнулі так міла душу, што ні магу стрымацца — каб разам з творамі, каторыя высылаю да друку — ні напісаць нескулькі слоу шчырага прывету Працауніком і Арганізаторам, згрупаваным каля новых газет.

Жадаць Вам хочыцца многа... Ніхайжа „Дзянніца“ і „Świetač“ асьвечаюць мрокі стогнучай пад ціжарам крывавых дзьон — Старонкі Роднай, — хай мрок асьвеціцца надзеяй, што лепшыя часы нідалька, а на небі, як знак гэтага, хай залуная „Дзянніца“, асьветляючы увесь, што ні на йосьць, шырокі прастор Краю Беларускага. Хай газеты гэтыя будуць жывым адбіткам душы й думак — і усяго піражытага Народам, — хай усьо што жывога у нас і балючага адсьвеціцца у іх праменьнях, хай пакажыцца на сьвет — і супольнымі сілами пастараїмся лячыць раны свае — свае балючкі.

Як аглушаная цяжкім нішчасьцям — калі на яе разлогах палілася гарачая кроу, калі сыны Яе разагнаныя па усім шырокім сьвеці навальніцай вайны — пагубляліся між суседзямі і чужынцамі — і грумады працаунікоу прызваных у рады ваякау пашлі бараніць гасугарства ад напаснікау — — змоукла Беларусь...

Здавалася час нейкі, што патоп крывавы заліушы Яе разлогі затапіу сабой сілу й думы — і душу народную, — заліу рады сяуцоу на родных нівах — знішчожыу усьо...

---

йон тайком, выціраючы нос, абацьор хусцінкаю і вочы. Ці ісьці да хаты, ці стаяць далей і чакаць адказу, Васіль ня ведау. Штож рабіць? Гадаючы над гэтым, йон прастаяу моучкі яшчэ некулькі часін, цотым, бачучы, што яму нічога ад яе ні дачыкацца, разам пераступіу парог сеняшніх дзьвярэй і ачууся на ганку.

— Та бывай здарова, — атчаянна вымавіу раптам Васіль, думаючы гэтым трануць Зосю.

— Бывай здароу,—атказала яна і намерылася зачыніць дзьверы. Васілю ажно млосна стала, і поуны гнеунай гордасьці, йон адсек:

— Дабранач, калі так, — і пашоу.

Зося на гэта нічога ні адказала, а барджэй зачыніла дзьверы, запьорла іх на засауку і закрутку, і вярнулася у хату.

Бацькі і Тэклячка ужо спалі, але яшчэ на стале свірэла уверчаная у самую машынку лямпа. Зося падышла к сталу, выкруціла у лямпе агонь, прысела на услоні і, дастаушы Рыгорау ліст с кішані, разгарнула яго і прачытала у йом тоя мейсца, дзе Рыгор пісау, што на Тройцу йон прыедзе да дому; потым ізноу дасціпнянька захавала яго. Спаць ей, ня гледзючы на позны час, заусім ні хацелася, сядзець жа цры агні было ніякавата. Падумаушы з хвілінку, Зося загасіла лямпу, сама ж падышла к вакну, прачыніла яго, прасунула на вуліцу голау і пачала цешыцца ноччу.

(Далей будзіць).

Але... Адзін ляжыць—сто ідзе,
Бо хтож роуны грумадзе...

І вот загаварыла Яна зноу... Хайжа голас яе дойдзя увусе куткі найдалейшыя — хай зварухне усе сэрцы, згрумадзіць усе думы у сабе — хай станіць поуным голасам Краю і Народу!

Дык хайжа адгукнуцца Тавврышы — мастакі слова і думак, хай адклікнуцца гдзе хто йосьць: ці то у радох ваякау, ці там у Краю, ці дзе на чужыне.

Бо мрок яшчэ густы, страшны, — распаліцьжа трэ на усю моць сьветачы нашы — каб ясьней зрабілася наукола.

Шчыра жадаючы вытрываласьці і еднасьці у працы вялікай — астаюся.

*Констанція Буйло.*

Ст. Шахоуская,
Маскоускай губэрні.

---

# Думкі да граматыкі.

4.

Часта густа той то сьой, то бліжэйшы то далейшы, то у вочы то за вочы накідаіцца са спрэчкай, што ні так трэба пісаць як я раджу.

На нідаунай нарадзї беларусау у Пітраградзї на шчот закладзін тут беларускай пачатковай школы таксама пачыналася спрэчка, што новы спосаб пісаньня будзіць праціуны традыції, што ужо людзі навыклі да спосабу пісаньня завеадзінага у „Нашай Нівя“ і у суполца „загляне сонцэ і у нашэ ваконцэ“.

На гэта адзін з маладых нашых ужо фільольогау адказау, што інтэлігенція, прывыкшая да расейскай і да польскай літэратуры, наравіць — каб і у беларускім пісьме відзіць падобная пісьмо да расейскага ці да польскага; алі што народ навыку такога ні маіць. І кажыць: мой брат здаецца досьцькі граматны і то пішыць да мяне падобныя словы ды ні аднастайным спосабам. Значыцца такі ці іншы спосаб пісаньня ні разіць хіба сіляніна.

Я да гэтага дабавіу, што да усяго людзі прывыкаюць, такшто німа страху завадзіць лад у пісаньню, а пакульшто такога ні было. Ось каліб заглянуць у адну з найлепшых беларускіх кніжак, выданых суполкай „Загляне сонцэ і у нашэ ваконцэ“, — у „Другое чытаньне для дзяцей беларусау“, — дык у гэткай важнай кніжца — ніякага ладу — сыстэмы — у пісаньню.

Тады я ня меу пад рукой гэтай кніжкі, а цяпер маю дык магу пахваліцца як у йой пішыцца:

(Лічбы азначаюць страніцы кніжкі і вершы, лічучы зверху на ніз).

| | |
|---|---|
| не дрэмлюць—6,27 | ня ведалі—17,13 |
| чэлавек—46, 14 | чалавека—47,25 |
| весну—6, 15 | вясну—7, 8 |
| не можэ—15, 2 | ня могуць — 28, 30 |
| не сердавау—17, 29 | ня гневауся — 17, 29 |
| не меу—3, 22 | ня трэба—4, 2 |
| зелёны—27, 22 | зялёных—19, 22 |
| дзенькі—19, 16 | дзянёк—5, 4 |
| волікоу—3, 6 | конікау—19, 9 |
| ножыкоу—33.21 | матылёкау — 18, 23 |
| коміноу—28, 21 | выдрау—17, 7 |
| вышоу—11, 18 | думау—17,4 |
| вышэу— 11,18 | паменшау—40, 5 |
| надзееуся—15, 22 | развеяуся—47,4 |
| кусочэк—40, 23 | месячык—32, 29 |
| хвоек—14, 17 | хмарак—40, 21 |
| ластавачэк—17, 9 | гняздзечак — 18,21 |
| нядзелек—16, 15 | |
| мошэк—17, 17 | мошак—18, 23 |
| мошачэк—39, 10 | месячык—14, 23 |
| авэчачка—5, 13 | рэчачка—22, 28 |
| сцежэчку—5, 25 | ксёнжачкі — 3, 23 |
| птушэчку—8, 25 | птушачкі—16.16 |
| ксёнжаццэ—3, 3 | старонцы—3, 4 |
| на берэзе—11, 20 | на берэзі—7, 18 |
| на свеце—15, 27 | на стрэсі—17,26 |
| у небе—13—19 | у небі—20, 27 |

| | |
|---|---|
| глянеш—38, 2 | выходзіш—40,20 |
| тòненькая—8, 23 | ціхінька—34, 20 |
| пастаулены—18, 16 | апараные—26,23 |
| зьвезены—37, 17 | засеяны—26, 7 |
| прэд бурэю—15, 2 | сілаю—40, 30 |
| Божэй—22, 22 | першаю—45, 25 |
| бедной—9, 27 | |
| летней—25, 4 | |
| зельлем—27, 18 | карэньням — 15, 15 |
| ветром—32, 10 | снегам—23, 25 |
| сонцэм—7, 7 | лесам—33, 33 |
| люстром—24, 19 | пылам—23, 26 |
| сіваго—29, 16 | цікавага—22, 21 |
| нікого—5, 22 | людзкога—7, 16 |
| зімняго—14, 7 | леташняга—16,3 |
| старого—15, 32 | сàмага—16, 35 |
| перестaлі—17, 30 | перасталі—38, 13 |
| перэсталі—19, 21 | перашла—20, 12 |
| вылепілі – 16,11 | разсякаюць — 19, 26 |
| пазлеталі—28, 22 | выглядаючы — 22, 12 |
| лежалі—22, 9 | сядзяць—19. 21 |
| кàшэль—46, 29 | сажань—31, 20 |
| шчэрэ—7, 30 | хороша—8, 21 |
| хорашэ—6, 9 | хораша—26, 19 |
| рэку—7, 20 | ракі—7, 21 |
| лятaлі—18, 7 | лёталі—17, 12 |
| гэто—7, 3 | спакойна—14, 24 |
| далёко—11, 15 | мала—9, 14 |
| неколько—17, 19 | |
| назначэна—23, 4 | раздмуханы — 32, 10 |
| серод—3, 12 | серад—3, 17 |
| кале—16, 35 | каля—11, 26 |
| вясеннему—8, 16 | побяжыць—5, 15 |
| сцелецца—37, 12 | покідае—6, 6 |
| трапечэцца—18, 14 | под ковамі—7, 3 |
| рэвè—5, 30 | горачынёй — 31, 35 |
| ены—3, 11 | собака—33, 10 |
| агледзеуся—26, 11 | одна—11, 17 |
| велізнае—32, 8 | одным—11, 20 |
| лесы—4, 3 | |
| не чэпай—5, 13 | |
| пауперэд—25, 14 | |
| дзеучат—33, 4 | |
| паперосы—40, 13 | |
| дзеця*)— 6, 10 | |

*) Нават — паперосы, нават — дзеця („е“ а ня „і“).

З таго, што вышэй паказана, відаць як чамусьці сумысьля наварот ніясных гаманкòу, замест да „а-я“, да „і“, рабілі падобнымі да „э-е“, да „о“: *не можэ*—15, 2; *недзелек*—17, 35; прэд бурэю—15, 2; *не чэпай* — 5, 13; собака — 33, 10; однымі — 11, 20.

І з тагож самага відаць, што пісаліся падобныя-ж словы усілякім способам, значыцца — ніякай сыстэмы ні было, апроч тэндэнціі...

Як гляну на гэны хаос у даунейшым способу пісаньня — ні магу надзівіцца з тых, хто абстаець за гэны способ, — як за — традыцыйны!..

*Акцьуб.*

## Капыль, Мінск. губ.

Многа чаго цікаваго засталося на Беларусі ат дауных часоу. Між іншым другім — гэта рамэсляныя цэхі. У нас, у Міньшчыні, па некаторых мястэчках і дагэтуаь яшчэ жывучь цэхі розных рамеснікау: гэтак—у мястэчку Міры йосць цэх ганчароу, у Капылі ажно тры цэхі: ткачоу, крауцоу і ганчароу. Гэты цэхі вядуць свае жыцьо з дауных пор, с так званых Сярэдніх вякоу, калі шчэ людзі ня ведалі ніякіх машын, ні тых хвабрык ды заводау, якія гэты машыны маглі сабою збудаваць, а майстровалі розныя рэчы пажытковыя дамашнім способам, кожны пры сваей хаці. У кожнум мейсцы, дзе больш ці меньш збіралася па аднаму рамяслу рамеснікау, там яны гуртаваліся у асобныя супалкі, ставючы сабе мэтаю успамагаць самі сябе у розных здарэньнях. Гэтыя цэхі выбіралі сабе асобны урад: цэхмістрау, ключнікау і інш. На цэхмістра усклададалася павіннасьць ведаць усім гаспадарствам цэха і хаваць скрынку з рэліквіямі яго. Ключнік хавау у сваіх руках ключы ад скрынкі з рэліквіямі, У нашых беларускіх цэхах дагэтуль усе цырымоніі адбываюцца, хоць рухавасьці у нутр ным жыцьці німа, Ды з гэтаг

ня дзіва: некалі жыцьвымі варункамі патрабавалася шчыльней пільнавацца цэха, бо супольнікі жылі заусьоды пры рамясле і з рамяслом, ад якога толькі і карміліся. Цяпер жа многія із іх накупілі зямлі, якой і атдаецца большая часьціна году і толькі на урыукі займаюцца рамяслом. Але ня гледзючы на гэта, традыція цэхавая дужа шчыльна зжылася с кожным цэхавым, які стараіцца ні раставацца з імі. І дагэтуль, хоць і зрэдку, — два разы у год на Каляды і ня Вяліклзень— адбываюцца зборышчы, на якіх і упісьваюцца новыя сябрукі.

На гэтых самых сборышчах праз два-тры гады перавыбіраіцца і урад цэхавы.

У кожнага цэха маюцца свае цэхавые знамі — харонгі з малюнкамі якога — небудзь начыньня цахоускага. Апроч харонгау маюцца шчэ свечкі. Усьо гэта знаходзіцца у мяйсцовых цэрквах і выносіцца на вялікія сьвяткі пры абхаджэньнях. Апроч вялікіх сьвечак, у цэхоу йосьць шчэ па 12 сьвечак малых, якія носюцца пры пахаваньні нябоштчыкау. За гэта бярэцца ні вялічкая плата на карысьць цэха. Цахоускія свечкі скачаны з зяльонага воску.

Гэтак ні пакідаюць цягнуць свайго жыцьця з дауных пор беларускія цэхі, ня гледзючы на тоя, што жыцьцьо так многа змянілася. Пажадаям жа ім далейшага жыцьця. Ля нас беларусау, як старына наша, яны дужа цікавая рэч.

*Капылянін.*

### З Сібіры.

З рэчкі Чуня (Канскаго павету, Янісейскай губ.) пішуць аб тым, што у вьоскі прыбегаюць мядзьведзі і крадуць кароу. Німа тае вьоскі, каб ей ні пабывалі гэтыя ні званыя госьці.

На гэткую работу выгнау мядзьведзяу голад, бо у гэтум гаду ні урадзілі кедровыя арэхі і ягады. Згаладаушыся, яны нападаюць на усіх і нават былі здарэньні, што мядзьведзі забівалі адзін другога і елі.

### З Нямеччыны.

Адзін амэріканскі журналіст, Віганд тэлеграфау з Берліна у амэріканскую газэу аб тым, што йон быу у майстэрнях нямецкіх, дзе будуюцца вялізныя „цэпяліны“ (дутыя паветрыкі), якія будуць магчы даляцець да Амэрыкі праз 90 гадзін, маючы у сабе 300 ч. Каштаваць будзя адзін такі паветрык да 4 міл. марак.

*

Праз нямецкій парлямент прайшоу закон, які пастанауляя усім трымацца мейсца свай службы, і пад страхам кары бароніць зьменяць яго. Гэты закон празываіцца — агульнай грамадзянскай ваеннай павіннасьцю.

## Вайна.

У Румыніі немцам падвязло: удалося забраць сталіцу — горад Бухарэст. Румыны адыйшлі бліжэй да рускай граніцы. Кароль і начальства затрымаліся у горадзі Яссы.

У Франціі — на вайне — бяз пірамен. Італіянцы каля Трієсту — замышляюць горад апанаваць.

На моры немцы сталі зноу тапіць параходы тых гасударствау, каторыя із імі нават і ні ваюць.

На рускім фронця із немцамі пірамен німа.

За Каукaзам у Турціі бяз пірамен.

У Грэціі гэтымі днямі штось важная выйсьці мусіць, бо англічаня і французы мусюць забэспечыцца, што грэкі нінападуць на іх у помач булгарам.

*Б. Б.*

Рädактар-выдавец Д. Жылуновіч.

«Русско-Французская Типографія». Петроградъ, Офицерская, 6.